# Ніва

„NIWA" — TYGODNIK BIAŁORUSKI W POLSCE

ГОД I № 44 БЕЛАСТОК, 30 СНЕЖНЯ 1956 г. Цана 60 гр.


**З ВЫПАДКУ НОВАГА ГОДА РЭДАКЦЫЯ ЖАДАЕ СВАІМ ЧЫТАЧАМ ПОСПЕХАЎ У ЖЫЦЦІ І ПРАЦЫ.**

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Дакладна не ведаю гісторыі свайго роду. Ніколі не раздумваў над гэтым ці ў маім родзе былі шляхціцы з гербамі, графы і іншыя высокапастаўленыя людзі, ці не. Здаецца, што гэткіх не было. Мой дзед, Рыгор, часта ўспамінаў як гэта ён удзельнічаў у Студзеньскім паўстанні 1863 года. Добра не разумеў чаму пайшоў да паўстанцаў. Мабыць бунтарны дух прыгоннага селяніна — беларуса, які насаджваў касу на шторц ды ішоў у атрады Кастуся Каліноўскага верыў тады, што настане лепшая доля селяніну.

Мой бацька нічым асаблівым не вылучаўся. Звычайны вясковы «мужык» прыдушаны нястачай і штодзённым змаганнем за існаванне. Цар загнаў яго ў салдаты. Знаходзіўся недзе, як казаў, у зауральскай краіне. Там мінула яго маладосць, зведаў крыху свету, навучыўся напамяць імёны членаў царскай сям'і і «Божа цара храні». У 1914 годзе пайшоў бараніць «матушку Расею» і цара. Дзесьці сярод мазурскіх азёр і ўзгоркаў застаўся назаўсёды.

Я замалада пайшоў на заробкі. Пакінуў сваю вёску і замілаванне да зямлі, якая не магла мяне выкарміць. Пачаў працаваць у Беластоку. Зведаў завод, пазнаёміўся з рабочымі. Мяне вельмі цікавіла жыццё. У ім я шмат што зразумеў.

Жыло нас трох — двух беларусаў і адзін паляк. Вечарам кожны маліўся да свайго Бога. Часам разгараліся заўзятыя «філасофскія» спрэчкі, які Бог лепшы.

Гады 1917—1920 былі гадамі вялікіх перамен у маім жыцці. Вечы, мітынгі, тайныя сходы, узмацненне рэвалюцыйных настрояў не маглі не паўплываць на мяне. Летам 1920 года перад палацам Браніцкага слухаў прамову Дзяржынскага. Ведаў аб дзейнасці Рэвалюцыйнага Камітэта, аб дэманстрацыях супроць вайны з большэвікамі. Тады я ўжо быў комуністам. Мяне захапіла партыйная дзейнасць. Арганізаваў партыйныя ячэйкі. Цэлымі начамі вывучаў праўды і законы соцыялізма. Ажаніўшыся разам з жонкай вярнуўся на вёску. Давала мне гэта большую свабоду партыйнай дзейнасці.

Пасля насталі гады Х'енаПяста і санацыі. З кожным годам, штораз горш дзеялася беларусам ў Польшчы. Ліквідавана Грамаду і беларускія школы. Утворана Картуз-Бярозу. Пачалі судзіць комуністаў. Ломжа, Равіч, Вронкі запоўніліся беларускімі і польскімі комуністамі.

Давялося і мне пакаштаваць палкі дэфы, пасля турмы ў Беластоку і Вронках. Пяць гады, на працягу якіх знаходзіўся я ў турэмным зняволенні, узбагацілі мае веды аб жыцці і адначасова моцна падарвалі маё здароўе.

Знаходзячыся разам з іншымі таварышамі ў адной камеры мы ўпарта вывучалі эканомію і грамадскія навукі. Натхненне да працы ў свабодзе, волю вытрымкі я чарпаў з дасягненняў і перамог Савецкага Саюза. Совецкая дзяржава, яе лад, яе кожнае дасягненне і пачынанне мы моцна ідэалізавалі. У кожнага з нас узнікла нейкая сляпая, бязмежная вера. Мабыць гэты некрытычны і сляпы погляд на СССР у той час быў нам і патрэбны.

Па даручэнню партыйных улад я ўтрымліваў сувязь з забастоўчымі камітэтамі. Абслугоўваў партыйныя сходы, якія адбываліся начамі ў палях. Вывучаў пытанні ленінізма і творы Сталіна.

Вайна не была нам нечаканасцю. Комуністы добра разумелі палітыку Гітлера. Домік з карт, пабудаваны на несправядлівасці і людской крыўдзе разваліўся.

Дзень 17-га верасня 1939 года мы, КПЗБ-оўцы ніколі не забудзем. Ад усходу наступала Чырвоная Армія нясучы Заходняй Беларусі доўгачаканае вызваленне.

У вёсках стаўлялі нашым вызваліцелям трыумфальныя брамы. Совецкія танкі народ закідаў кветкамі, многія плакалі ад радасці.

Пачынаўся новы перыяд у маім жыцці. З вялікай цікавасцю прыглядаўся я нова-арганізаванай совецкай уладзе, сам памагаў тварыць. Аб гэтай-ж уладзе я марыў у панурыя дні майго жыцця, падчас забастовак і ў турэмных камерах.

Аднак у маё сумленне комуніста з часам пачалі ўкрадвацца нейкія сумненні, ды не толькі ў маё сумленне. Я быў комуністам - беларусам. Добра разумеў пролетарскі інтэрнацыяналізм. Аднак я вельмі кахаў свой просты, беларускі люд, любіў вершы Купалы і апавяданні Коласа. Але нейк тут, дзе была Беларуская Рэспубліка, вельмі мала знаходзіў беларускасці.

*(Працяг на стар. 4).*



*Зімовая дарога ля Супрасля. Фота — П. Савіцкі.*

# МІНУЛЫ ГОД

Апошнія дні старога года. У гэтыя дні быццам спрацаваны араты, які перад заходам сонца стрымлівае стомленага каня і працягваючы шуршатай далонію па спацеўшым твары, узіраецца на рэзультат свае цяжкае працы — узараную раллю, на якой на другі год закалосіцца ўрадлівае збожжа, так і кожны чалавек думкі свае накіроўвае на мінуўшы перыяд, перыяд цяжкай працы ў карысць грамадскасці.

Так, не лёгкі быў мінулы 1956 год, багаты год у міжнародныя падзеі, якія скалыхнулі народамі ўсяго свету, а ў тым ліку не менш і нашым народам.

Мінулы год вылучыўся падзеямі, якія маюць вялікі ўплыў на далейшае жыццё ўсяго чалавецтва.

Якія-ж гэта былі падзеі і да чаго яны прычыніліся?

У апошнія дні старога года дарэчы будзе прыпомніць іх сабе і зрабіць вывады.

На пачатку гэтага года адбыўся XX З'езд КПСС, пастановы якога запачаткавалі новы перыяд у гісторыі міжнароднага рабочага руху. XX З'езд рашуча разлічыўся з культам асобы, выказаў яго дрэнныя ўплывы на жыццё народа.

Людзі ўздыхнулі з палёгкай. Атрахнуліся з заскарупення і палітычнага абмярцвення, пачалі думаць, пачалі шукаць сваіх уласных дарог да далейшага росквіту жыцця, да шчасця.

Вялікай падзеяй у жыцці нашага народа былі гістарычныя рашэнні VIII Пленума ЦК ПЗПР.

Пастановы VIII Пленума ўскалыхнулі ўсё грамадства Польшчы. Яны нібы ажыццяўленчая здраявая вада, якая заспакойвае смагу стомленага вандраўніка, налалі народнай плыні новых фарбаў жыцця і вызвалілі магутную самаахвярную ініцыятыву працоўных.

Гэтая велізарная ініцыятыва прымусіла некаторых псеўдапалітыкаў зразумець старую, а як-жа мудрую ісціну, што кожны народ, а ў тым ліку і наш не абавязаны ў сваім развіцці прытрымліваецца нейкага агульнага праз кагось выпрацаванага чужога нам шаблону.

Цяжкая і сумная засталася нам спадчына пасля ўладарніцтва такіх псеўдапалітыкаў. Засталася сумная праўда. Але праўда! Першы раз народ у сапраўднасці даведаўся аб гэтай праўдзе і гэта вельмі важна. Таму, што калі народ добра арыентуецца ў цяжкай гаспадарчай сітуацыі ён падвоіць свае намаганні ў барацьбе за святлейшую будучыню.

Пасля VIII Пленума доказаў зразумення цяжкай сітуацыі і ахвярнасці працоўных, ёсць вельмі многа. Зараз няма такога прадпрыемства, у якім-б працоўныя з усёй сур'ёзнасцю і пачуццём адказнасці не гаварылі аб магчымасці паляпшэння і павелічэння прадукцыі пры адначасовым змяншэнні сабекошту.

Так сітуацыя ў краіне нялёгкая. Аднак народ у будучыню глядзіць спакойна і ўпэўнена, таму ў новы 1957 год, які не будзе лёгкім годам, грамадскасць крочыць з яснымі перспектывамі і зразумелай мэтай.

Мінулы год быў таксама багаты падзеямі і для нас, беларусаў, грамадзян Народнай Польшчы. У гэтым годзе беларусы ўздыхнулі з палёгкай, пачуліся беларусамі.

Мінулі і ніколі не вернуцца тыя часы, калі большыя ці меншыя псеўдапалітыкі ва ўсе бакі гарланілі, што Польшча з'яўляецца аднанацыянальнай дзяржавай.

Мінулі і ніколі не вернуцца тыя часы, калі згодна з пажаданнямі такіх псеўдапалітыкаў ліквідавалася беларускія школы, а многія з беларусаў, знаходзячыся ў польскім асяроддзі, баяліся прызнавацца да свае нацыянальнасці.

У гэтым годзе пры дапамозе Партыі і Урада саргазавана Беларускае грамадска - культурнае таварыства, якое што раз больш разгортвае сваю падзейнасць сярод беларусаў. Беларусы атрымалі свой часопіс.

З кожным годам развіваюцца пачатковыя і сярэднія беларускія школы. Адкрыта пры Варшаўскім універсітэце Аддзел беларускай філалогіі. Павялічаюць яны рады беларускай інтэлігенцыі, якая ў беларускім асяроддзі што раз больш будзе развіваць сваю прыгожую, нацыянальную культуру.

І хаця яшчэ дзе-ні-дзе на хвалях шырокай дэмакратызацыі ў краіне выплываюць брудныя шавіністычныя падонкі, аднак не гледзячы на гэта ў беларусаў што раз больш узмацняецца пачуццё нацыянальнай гордасці і любоў да свае радзімы.

Таму, беларусы, плячо ў плячо з палякамі актыўна ўключыліся ў рэалізацыю гістарычных пастаноў VIII Пленума і разам з усёй грамадскасцю Народнай Польшчы, з яснымі перспектывамі крочаць у новы, 1957 год.

 

З конкурсу збіральнікаў фальклору

# „Два браты"

Жылі два браты, адзін быў багаты, а другі бедны. У беднаго нехапіла хлеба, ён пайшоў у лес, каб пашукаць што з'есці. Ідзе і ўбачыў «Жар птушку». Узяў камень і кінуў у яе. Яна паляцела, але адно пяро засталося на зямлі. Яно вельмі бліщчэла, было як-бы залатое. Бедны ўзяў і занёс яго для багатага брата. Багаты сказаў яму каб ён гэтую птушку забіў.

На другі дзень зайшоў бедны брат у лес і гэтую птушку забіў. Прынёс яе да брата. Той загадаў для кухаркі каб птушку спякла.

У беднага было два сыны, падобныя адзін да другога, як кропля вады. Калі птушка пяклася, гэтыя два хлопцы, Іван Удалец і Васіль Маладзец, узялі з патэльні птушку, ды з'елі сэрца яе. Калі кухарка ўбачыла, што няма яго — пайшла зарубала пеўня, выняла сэрца і палажыла ў птушку.

Прыйшоў гаспадар з'еў сэрца (бо хто з'есць сэрца такой птушкі, то штоноч пад падушкай будзе адзін рубель). Як толькі з'еў, то адразу лёг спаць. Устаў рана, паглядзеў пад падушкай, а там нічога няма. А бедны гаспадар штодзень рана заўважае ў сваіх дзяцей пад падушкай два рублі.

Аж-но багаты аб тым даведаўся і кажа беднаму гаспадару, што гэта на іх напала якаясьці хвароба, якая пойдзе па цэлай сям'і і цераз нейкі час усе могуць памерці. Сказаў беднаму, каб хлопцаў вывеў у лес і каб яны не вярталіся да дому.

І так ён зрабіў. Ідуць яны лесам і бачаць хатка лесніка. Зайшлі і расказваюць яму за што іх бацька выгнаў з дому. Паляўнічы запрапанаваў каб жылі ў яго.

Жылі яны многа лёт. Нарэшце выбіраюцца ісці далей. Стары паляўнічы даў ім стрэльбу і нож. Гэты нож быў вельмі цудоўны. Паляўнічы сказаў: «Як будзеце разыходзіцца — то гэты нож трэба ўбіць у дрэва... Калі каторы з вас загіне, а другі вернецца ў тое месца — то з аднаго боку нажа будзе кроў, значыць, што брат не жыве».

Калі разыходзіліся, яны так і зрабілі. Іван Удалец пайшоў у свет, а за ім так, як і за яго братам Васілём Маладцом, пайшло звяр'ё: Заяц, Мядзведзь, Воўк і Ліса.

Іван Маладзец падышоў пад горад і ўбачыў людзей вельмі смутных, а некаторыя плакалі. Калі ён запытаў, чаго плачуць, людзі сказалі, што ў іх ёсць змей, які штодзень мусіць з'есці адну дзяўчыну і цяпер маюць аддаць дачку свайго цара. Цар сказаў: «Хто гэтую дзяўчыну вызваліць ад смерці — аддасць че за таго замуж».

Іван Маладзец пайшоў далей. Ідзе, ідзе, ды бачыць што нейкі ваяка вядзе дачку да змея. Пайшоў ён разам з імі. Калі яны падышлі да нары, дзе жыў змей — Іван сказаў, каб яны засталіся, а ён пойдзе да змея. Зайшоў, а яго не было. Побач стаяла бочка з вадой, а над бочкай напісана: — «Хто вып'е гэтую ваду, стане такі сільны, што будзе мог падняць меч, які ляжыць каля бочкі».

Іван пачаў гэтую ваду піць. Піў, піў, і нарэшце ўсю выпіў і адчуў у сябе такую сілу, што ўзяў меч, ды зразу падняў і так моцна ім махнуў, што шум аж пачуў.

Прыляцеў змей і пытае: «Чаго сюды прыйшоў?». Іван кажа: «Хачу з табой змерыцца сілай». Змей адкажа: «Тут не такія былі і ўсе пагінулі». «Я не згіну» — кажа Іван.

Змей сыпануў сем снапоў агню са сваіх галоў. Звяр'ё кінулася і пагасіла агонь. Іван схапіў меч, махнуў, зрубаў дзве галавы. Змей пачуў боль. Калі махнуў другі раз — адляцелі ізноў дзве галавы, змей паляцеў у паветра, але цераз некалькі мінут упаў на зямлю. Іван адрубаў апошнюю галаву і са сваім звяр'ём, дачкой цара і воінам, які адводзіў царэўну пайшоў на ўзгорак адпачываць.

Ляглі яны спаць. Іван сказаў для Мядзведзя, каб вартаваў. Мядзведзь крыху пасядзеў і сказаў, каб Воўк вартаваў, але Воўк сказаў, каб далей вартавала Лісіца. Лісіца аддала варту для Зайца, а Заяц сядзеў, сядзеў і нарэшце заснуў.

Воін у той час устаў адрубаў Івану галаву, царэўну забраў з сабой і сказаў для яе, каб гаварыла, што гэта ён забіў Змея.

Калі звяр'ё праснулася пачало на Зайца крычаць, чаму не вартаваў, толькі спаў. Заяц кажа: — Можа прынесці «жывой вады»?. Пабег і прынёс ваду. Прылажылі галаву Івана, памазалі жывой вадой і Іван ажыў.

Пайшлі ўсе разам у горад, тут спаткалі людзей, якія вельмі з чагосьці цешыліся. Іван пытае чаму такія рады, а яны адказваюць, што царэўну меў з'есці Змей, але адзін воін, які адводзіў яе, забіў Змея і сёння мае адбыцца іх вяселле.

Іван са сваімі звярамі пайшоў туды, дзе мелася быць вяселле. Зайшоў і пытае воіна: — Гэта ты забіў Змея?

— Я — адказвае той.

Тады Іван пытае: Чым ты яго забіў?

— Мечам, які ляжыць там, дзе жыў Змей — кажа воін.

— Пойдзем туды, каб забачыць гэты меч.

Калі зайшлі туды, Іван кажа: — Вось падымі гэты меч.

Воін падыйшоў, рвануў, але нават і з месца не рушыў. Тады Іван і кажа: — Я сам забіў Змея, хапіў меч махнуў воіну па галаве, галава пакацілася. Тады Іван Маладзец пытае царэўну: — Хто забіў гэтага Змея?

— Ты — адказала яна.

Вось і ўзяў Іван за жонку гэтую царэўну. Жыў ён у царстве вельмі доўга, нарэшце задумаў сабе, каб паехаць у лес на паляванне. Асядлаў каня, ускочыў на яго і паехаў разам са сваім звяр'ём.

Сядзіць Іван у лесе, а ўжо вечарэе, паліць агонь, грэецца, разам з ім сядзіць яго звяр'ё, аж чуе з нейкага боку пачуўся голас «зімна бррр».

— Хадзі, пагрэйся, — кажа Іван.

Ажно бачыць, на дрэве «Баба» сядзіць і кажа:

— Я баюся твайго звяр'я.

— Звяр'ё не будзе кусаць адказвае Іван.

Але яна кінула яму трэсачку, не паверыла, і папрасіла, каб ён ударыў гэтай трэсачкай усіх звяроў. Калі ўдарыў, «Баба» звалілася на Івана і яго ўдарыла такой-жа самай трэсачкай.

Звяр'ё і Іван змяніліся ў каменне, якое яна занесла і кінула ў роў, дзе было многа камення (гэта былі людзі, раней ёю замененыя ў каменне. Гэта была «Бава Яга».

Аж-но ішоў Васіль Маладзец і зайшоў паглядзець на нож. Бачыць, што на адным баку кроў. Абазначала гэта, што брат ўжо не жывы. Пайшоў ён у горад, дзе быў Іван. Калі царэўна ўбачыла яго — узрадавалася. Яна думала, што гэта яе муж. Але ён не адазваўся, завярнуўся са сваім звяр'ём у лес і пачаў паліць агонь. Сядзіць ды чуе голас «зімна». Ён убачыў на дзераве «Бабу» і кажа, каб злезла і пагрэлася, а яна кажа, што баіцца яго звяроў. Васіль кажа : — Яны цябе не будуць зачапаць. А яна ўсё не верыць і дае яму трэсачку, каб ударыў сваіх звяроў, то яны тады не будуць зачапаць. Калі яна кінула трэсачку, то ён не біў звяроў, а кінуў у агонь.

Не паспела яна згарэць, як «Баба Яга» упала і сама згарэла. Тады ўсе, тыя, што былі замененыя ў каменне, паўставалі і пачалі дзякаваць Васілю. Васіль убачыў тут і свайго брата і звяр'ё. Пасля гэтага пайшлі яны ў палац, пачалася вялікая гасціна і ад таго часу жылі ўжо разам.

В. КАРПЮК.

Зубава, пошта Пасынкі

пав. Бельск Падляскі



*Частка партызанскага аддзела ім. Дзержынскага ў Белавежскай пушчы.*

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ (8)

# ПАРТЫЗАНЫ

Было гэта 18 сакавіка 1944 года. З партызанскага злучэння імя Калініна прыбыў да нас з некалькімі партызанамі камандзір брыгады Мартынаў. Мартынаў з'яўляўся вышэйшым афіцэрам Чырвонай Арміі. З ім прыйшлі радысты з радыёстанцыяй і спецыялісты па разведцы і сувязі. Наша зямлянка аказалася замалой. Не было дзе ўсіх змясціць.

Мартынаў склікаў сход, на якім адчытаў загад аб перайменаванні нашай групы ў партызанскі атрад імя Дзержынскага. Камандзірам атрада назначалася мяне, (Юрчука—А.О.), а шэфам штаба, Саевіча. Мартынаў азнаёміўшыся з агульнай сітуацыяй у Белавежскай пушчы, некаторыя партызанскія групы аб'яднаў, намерваючыся, такім чынам пашырыць сваю дзейнасць на тэрыторыю ўсяго Бельскага павета. Існавала яшчэ шмат пасобных партызанскіх груп.

Паўстала неабходнасць навязаць з гэтымі групамі сувязь. Мартынаў, Валентынаў і я, вырашылі пайсці на некалькі дзён у болей аддаленыя раёны, правесці дакладную разведку і наладзіць патрэбную нам сувязь.

Стаяла яшчэ зіма. Мароз і глыбокі снег моцна надакучваў нам. Начамі, з вёскі ў вёску, ад сувязнога да сувязнога, абмінаючы дарогі, падаваліся мы на захад. Аднойчы, увечары падаў так густы снег, што не было нічога відаць. Дайшлі да нямецкага маёнтка ў Дзендзялове. Пастанавілі пацікавіцца, што там ёсць. Ціха падыйшлі пад акно адной хаткі. Мартынаў прыклаў да сцяны вуха, размаўлялі па-польску. Увайшлі ў хату. Засталі там некалькі польскіх работнікаў, што працавалі ў маёнтку. Распыталі іх пра немцаў і пра жыццё ў маёнтку. Расказалі, што нямецкія ўлады накіравалі сюды аднаго гітлераўца — аканома, які на акупаванай тэрыторыі СССР займаў высокую пасаду — быццам-бы быў нямецкім ваяводай. Уцёкшы адтуль, пачаў тут правіць як кат.

Паглядзелі мы адзін на другога і... паразумеліся без слоў. Работнікі паказалі нам дзе знаходзіцца цяпер гэты гітлеравец. Увайшлі ў тую кватэру. Аканом аб нечым тлумачыў работнікам. Я коратка па-польску спытаў:

— Хто тут гаспадар? Маўчанне.

— Кто здесь хозяин? — кінуў па-руску Мартынаў.

Немец, дрыжачы ад сполаху, устаў. — Я — прашаптаў. Мартынаў падыйшоў да яго, выняў дакументы, забраў пісталет. Рабочыя казалі праўду — гэта ён.

— Нам патрэбны коні — сказаў Мартынаў — вядзіце ў стайню. Немец, пакорна, быццам-бы шчур злоўлены ў пастку, павёў нас у стайню. Калі расчыніў дзверы і пераступіў парог, Мартынаў некалькімі пісталетнымі стрэламі паклаў яго на месцы. Цёмнай, снежнай ноччу хутка мы аддаляліся ад таго месца.

Маскуючы сляды ад пагоні набліжаліся да Бельска. Дарог мы тут не ведалі, арыентаваліся на компас. Пасля доўгіх шуканняў знайшлі сувязнога партызанскай групы імя Пархаменкі. Выслана з гэтай групы разведка завяла нас у зямлянку. Сардэчна віталіся мы з таварышамі па зброі, і адныя і другія мелі шмат што сабе сказаць.

Група імя Пархаменкі мела вельмі важныя стратэгічныя звесткі, якія трэба было неадкладна перадаць у штаб партызанскага злучэння імя Калініна. Я з пакетам пайшоў у свой атрад, а Валентынаў і Мартынаў, ведзеныя сувязнымі пайшлі далей.

За час сваёй пабыўкі на Бельшчыне Мартынаў сарганізаваў там два новыя партызанскія атрады: імя Пархаменкі і імя Жукава.

Вярнуўшыся, я застаў свой атрад у поўным парадку. Перадаў пакет Саевічу, які пераслаў яго ў штаб партызанскага злучэння імя Калініна.

Праз тыдзень вярнуўся Мартынаў з Валентынавым. Пасля адыйшлі ў штаб партызанскага злучэння імя Калініна. У красавіку ізноў вярнуліся да нас, прыводзячы з сабой 200-асабовы партызанскі атрад. У гэтай групе было 17 палякаў-парашутыстаў. Крыху пабыўшы ў нас, пайшлі далей, у напрамку Варшавы да Людовай Арміі.

З усходу набліжаўся фронт. Нашыя радысты атрымлівалі ўсё радаснейшыя паведамленні. Друкаваныя насельніцтву лістоўкі і распаўсюджваныя сувязнымі радасныя звесткі аб сітуацыі на фронце ўзнялі дух насельніцтва, узмацнялі антыфашысцкія настроі.

Дзесьці так у красавіку 1944 года камандаванне загадала правесці глыбокую разведку чыгуначнага вузла — Чаромха. З Чаромхі ва ўсе бакі ішлі нямецкія транспарты, якія савецкая авіяцыя была намерана бамбардыраваць. Трэба было ўдакладніць гадзіны ўзмоцненага транспартнага руху. Апрача гэтага, трэба было ўзарваць адзін фашысцкі транспарт на лініі Гайнаўка — Чаромха ў ваколіцы вёскі Арэшкава.

Выкананне гэтага задання даручана мне, Уладыславу Койле, яго жонцы Валі і партызанам Кольцы і Валодзі. Узялі мы з сабой цяжкую міну. Па дарозе зайшлі ў вёску Лазіцы, дзе жыў наш сувязны і адначасова цесць Койлы. Ад яго атрымалі шмат цэнных інфармацый аб транспартах, дзеяннях немцаў і г. д.

Працяг будзе.



 

